# НАВІНКІ

28 верасьня - 11 кастрычніка 1999 №10(18) Кошт свабодны

**Вы будзеце сьмяяцца, але Ганчар таксама зьнік!**
*стар. 2*

*Дэфіцыт гарэлкі прывёў да росту злачыннасьці*
***стар. 4-5***

Лепш я загіну, але загад Прэзыдэнта выканаю як мае быць!

АнтыМірон

Новае заданьне супэрагента. Крывавейшы комікс
на стар. 8




## Займі свой дасуг больш цікавымі рэчамі!

## «Сухі Закон» ня пройдзе!

«...Будет водка целых восемь,
Все равно мы пить не бросим.
Передайте Ильичу,
Нам и десять по плечу!
Ну а если будет больше,
Мы вам сделаем как в Польше...»

Вось такія забойныя куплеты расьпяваў савецкі народ на пачатку 80-ых, калі ва ўсіх на вуснах былі дзьве галоўныя навіны: у суседняй Польшчы ўзняла галаву контаррэвалюцыйная «Салідарнасьць», а Брэжнеў падняў кошт пузыра з клясычных 3,62 да пяці дзеравянак. Прыведзеныя эпіграфам радкі ня проста помнік саўдэпаўскага фальклёру або бравада пралетарыяту. Гэта піск славянскай душы, бліскучае вызначэньне ролі і месца алькаголю ў грамадзка-палітычных працэсах. Так, нажаль, атрута мае амаль усіхмоцны ўплыў на посттрадыцыйную грамадзкую фармацыю. Яна выконвае прорву функцыяў і, перш за ўсё, камунікатыўную. Для адарванага ад родавай, сельскай

На стар. 4

### «Злы чачэн паўзе з кінжалам»

Калі ў 1991г. чачэнцы заварылі антырасейскую кашу, ім перапала прорва савецкіх прапагандысцкіх матэрыялаў, у тым ліку з часоў другой сусьветнай вайны. Фэдэралы выкарыстоўвалі іх для запалохваньня мірнага насельніцтва. Доўгі час плякаты бязмэтава пыліліся на складах ічкерскага міністра шарыяту Ўдугава, пакуль палявому камандзіру Хатабу неяк ня стукнула ў галаву эўрыка – прыстасаваць сталінскую макулатуру да існуючых рэаліяў. Трошкі падкарэктавалі подпісы, пэрсанажы – і старая агітка зафурычыла зноў. Прапануем Вашай увазе колькі абразчыкаў ваенна-прапагандысцкага мастацтва часоў Дагестанскай кампаніі, захопленых у якасьці трафэяў падчас штурму аулаў гарадзкога тыпу Чабанмахі і Карамахі. Стар. 6-7




Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Тыраж 5200 экз. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: navinki@user.unibel.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 27.09.1999 г. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў заказчыка на паліграфічнай фабрыцы "Чырвоная Зорка" ППП імя Я.Коласа, г. Менск, 1-ы Загарадны зав., 3. Заказ №2047

# ПАЛІТЫКА



# Іронія лёсу

## або зь лёгкай парай, спадар Ганчар

Хто скраў Ганчара? Гэтае пытаньне турбуе ўсю нацыю. Ідучы літаральна па сьлядах злодзеяў, наша рэдакцыя правяла бліц-допыт жывых сьведкаў кіднэпінгу. На падставе атрыманай інфармацыі былі зробленыя фотаробаты меркаваных злачынцаў.
Уважліва прачытайце апісаньні злачынцаў і ўгледзьцеся ў гэтыя твары. Можа, ваша інфармацыя дапаможа сьледзтву.

***Лазеншчык Язэп**, сябра БНФ (фракцыя пазьнякоўская, ісьцінна-нацыянальная):*
«Ганчар, кажаце? Той, што хацеў за венік пластыкавай карткай American Express разьлічыцца? Як жа... Падазроны мужык. Было ў ім нешта такое – маскальска-чэкісцкае. Пытаўся, ці дрэнна жыву, ці дзейнічае ў нас у лазьні Свабодны Прафсаюз Вольных Лазеншчыкаў, за каго галасаваў на апошніх прэзыдэнцкіх выбарах. За ім яшчэ ў лазьні сачылі нейкія голыя мужыкі ў партупэях, вялі яго да самай парылкі. Калі выйшаў, яго ўжо чакаў нейкі тып. Прыемны мужчына. Гадоў 45, ня болей. Курчавы такі. Сказаў: «Прывітаньне ад Захаранкі, ушывы блох», доўга тузаў па-добраму. Потым ветліва скруціў, запрасіў у машыну і хутка адваліў. За ім цэлы экскорт зь міргалкамі. Во як».





***Буфэтчыца цёця Тэкля**. Аматарка бразільскіх тэлесэрыялаў:*
«Ах, Ганчар! Знойны мужчына. Выліты Луіс-Альбэрта. Па выпраўцы відаць з былых дэпутатаў. Прапанаваў мне зьбегчы зь ім у Амэрыку. Казаў, што яго там даўно чакаюць, у нас там будзе свая фазэнда, ахова з ЦРУ, джакузі й нэгар-халуй. Узяў, што было трэба, а потым падмануў, падлец. Сеў у джып, як яго... «Караоке» ці што. Зь ім яшчэ быў такі, з чорнай барадой, не па-нашаму нешта казаў, «хваксам» нейкім пагражаў. Вінаваціў, што Віктар на урусаў прадпрацоўвае. Упіхнуў у машыну тую, і сьлед прастыў. А я адна. Саўсім адна. Усе яны мужыкі аднолькавыя...»

***Хлопчык Дзіма**, мойшчык іншамарак (спэцыяліст па джыпах «Чырокі»):*
«Э-э-э-э, блін. Э-э-э. А, той мэн? У яго такая тачка была – джыпуха, зыба!.. Калі вырасту, буду таксама на выбарах лахоў абуваць, каб на такім «Чырокі» езьдзіць. Выйшаў ён, значыць, з лазьні... Тут два хачыка падвалілі. «Ну, чыто, – кажуць, – забыў, што на «счётчыку»? Лавэ на выбаркі свае даўгануў? Сто працэнтаў удэлнікаў, сто працэнтаў удэлнікаў!.. Цябе за язык хто цягнуў? Біляд. Давай к'хапусту, ішак нэдарэзаны!» І валыны дастаюць. Скруцілі, засунулі, як лашка, у тачку і звалілі... Крутая мафія!!! Калі вырасту, таксама сабе валыну надыбаю...»



Такім чынам, усе сьведкі сыходзяцца на адным: у справе Ганчара яўна прасочваецца каўкаскі сьлед. Усе, хто валодае нейкай інфармацыяй, просьба зьвяртацца ў праваахоўныя арганізацыі ●

**Доку Заўгаеў**

## Чумка

### Шчэмяць каўкаскіх сабак

«Калі ваш малодшы брат каўкаскага паходжаньня, настойліва просім Вас зарэгістраваць яго ў пастарунку міліцыі ці ў бліжэйшай вэтлякарні па месцы жыхарства». Такога тыпу паведамленьні паверглі ў шок усіх ўладальнікаў чацьвераногіх каўказцаў. Цяжкія часы настaлі для сяброў нашых меншых. Чарговая эпідэмія шаленства накрыла сабачы сьвет Беларусі. На пазачарговай канфэрэнцыі лекараў-вэтэрынараў па папярэджаньні эпідэміяў было выяўлена, што ў большасьці выпадкаў ахвярамі эпідэміі шаленства зьяўляюцца каўкаскія аўчаркі. Па словах начальніка маскоўскага РАУС: «24 верасьня нашым аддзяленьнем было затрымана 64 гаспадара з каўкаскімі сабакамі па падазрэньні ў шаленстве. Гаспадары ня мелі з сабой адпаведных дакумэнтаў, якія б пацьвердзілі, што іхныя пітомцы прайшлі курс прышчэпак». Усім участковым даручана правяраць ва ўладальнікаў каўкаскіх аўчарак радаслоўную, а таксама мэдыцынскую картку аб праходжаньні прышчэпак. Фэдэрацыя кінолягаў Рэспублікі Беларусь прыняла рэзалюцыю аб перарэгістрацыі ўладальнікаў каўкаскіх аўчарак і іх абавязковым прышчапленьні ад шаленства і чумкі.



Удзень і ўначы, без выходных і перакураў працуюць айчынныя жывадзёрні. Мужныя жывадзёры, ня гледзячы на надвор'е і недахоп тэхнікі, выконваюць плян па адлову нерперарэгістраваных каўказцаў. Моцныя прыгожыя сабакі аказаліся безабароннымі перад гэтай навалай. Бо ў адрозьненьні ад крэпкіх дварняг, пародзістыя сабакі больш падвержаныя хваробам. Нават насмарк ці грып могуць загнаць вашага пітомца ў магілу. Калі ж Вы ўладальнік каўказца, будзьце ўважлівы, пры дзіўнасьці ў паводзінах (напрыклад, незвычайная любоў да вострага і г.д.) неадкладна зьвяртайцеся ў вэтлякарню.

# Апошні цьвік у труну савецкага футболу

## *забілі футбалісты менскага «Дынама»*

Рытуальны матч «Дынама-82» і зборнай СССР запомніцца беларусам надоўга. А дзень 17 верасьня безумоўна ўвойдзе ў айчынную гісторыю як дзень Вялікай Футбольнай перамогі.
Яшчэ зранку ў паветры сталіцы былой саюзнай рэспублікі выразна адчувалася напружанасьць. Фанаты «нерушымага» з раніцы наваднілі горад. Сівыя і аблыселыя, з дубовымі кіямі й мэдалямі, вэтэраны СССР шчамілі па падваротнях шчуплых судэнтаў РТІ зь сіне-белымі дынамаўскімі шалікамі. «За каго балееш, шчанюк!» – з глухімі ўдарамі драўляных пратэзаў небарака-маладзён валіўся долу, афарбоўваючы асфальт у колер савецкага сьцягу.
Гэтак пачынаўся гістарычны матч, зарганізаваны дынамаўцам Сяргеем Алейнікавым. Сам «мэтр» быў яўна ня ў духу. Бегаючы па полі, нібы падстрэлены сабака, увесь першы тайм Алейнікаў толькі й рабіў, што замінаў зладжанай гульне беларускай каманды. Фактычна з-за ягонай «гульні», якая хутчэй нагадвала савецкую эпоху позьняга застою, беларусы ў чыстую прадулі першую палову матчу.
Як апошні школьнік-дзюшоравец, на 20-ай хвіліне Алейнікаў саступае мяч Радыёнаву, які не прымінуў размачыць вароты «Дынама». Калі ж на 28-ай хвіліне Алейнікаў прапусьціў «дваццаць капеек» і той жа Радыёнаў закалаціў яшчэ адну банку беларусам, цярпеньне трэнэра «Дынама» Малафеева лопнула: «Ідзі лепей пагуляй за Саветы!»
І гэта быў сапраўды правільны крок дынамаўскага стратэга. Як толькі Алейнікаў выйшаў у другім тайме ў чырвонай футболцы савецкай зборнай, перамога СССР накрылася медным тазам. Кульгаючы і спатыкаючыся, «маэстра» савецкага футболу адзін за адным прапускаў выгодныя пасы й галавыя моманты. Нават пеналь у нашыя вароты Алейнікаў віртуозна адправіў у «малако». І вось фінальны сьвісток фіксуе канчатковае пасрамленьне «імпэрыі зла»: выніковы лік 3:2 на карысьць «Дынама» (Менск).

**На працягу аднаго матчу Алейнікаў умудрыўся згуляць за дзьве каманды і ў абедзьвюх прайграць. Новыя бутсы ціснулі.**

Перамогу Незалежнасьці й Адраджэньня давершылі дынамаўскія «ультрас». Адразу ж пасьля матчу на трыбунах завязалася бойка. «Саўкі – лахі! Дынама – крута!» Звон дзедаўскіх мэдалёў ахапіў стадыён. «Што табе, стары пярдун, зялёны колер не да спадобы?!» – нейкі фанат з чырвона-зялёным значкам душыў кавалкам сярпаста-малаткастай матэрыі вэтэрана працы 1-ай ступені. Фанацкі шабаш быў прыпынены ўзмоцненымі сіламі міліцыі і АМАПу. Але нішто ўжо не магло зацьміць радасьці перамогі.
Матч яскрава засьведчыў: савецкі лад гульні, які паказаў Алейнікаў і зборная СССР, – поўны адстой у параўнаньні з высокадухоўным футболам менскага «Дынама», які непарыўнай пупавінай заўсёды быў зьвязаны з традыцыямі і звычаямі беларускага народу. І за свой футбол беларускія заўзятары гатовыя раскалаціць пысу футбольнаму бальшавізму ●

**Аляксандар Туміловіч,**
футбаліст-аматар

### «ВЯЧОРКА БЯРЭ РЭВАНШ»

Раскол у БНФ уступае ў сваю новую фазу. Два лідэры, дзьве ўправы, два зьезды... А што ж рабіць шараговым сябрам, вэтэранам нацыяналізму зь дзесяцігадовым стажам? Вядома ж, простыя людзі заўсёды клалі на разборкі ў вярхах.



































# «Паўднёвы Парк»

## Правакацыя супраць дзяцінства

**S**OS! Бацькі й сьвядомыя грамадзяне, усе, каму не ў ламак каштоўнасьці шматпакутнай славянскай цывілізацыі, увага!!! Уставайце пад сьцягі сакральнай вайны за ідэалы чысьціні і маралі. Імпэрыялізм рыхтуе новы анімацыйны крыжовы паход супраць нашых дзетак.

***

**Эрык Картман** – *адзін з галоўных герояў мультсэрыялу South Park, жыхар мястэчка з аднайменнай назвай, што знаходзіцца ў амэрыканскіх Шабанах. Яшчэ ўчора ён быў ружовашчокім карапузам: пяяў псальмы, вучыўся на пяцёркі і марыў стаць бой-скаўтам… Нялёгкая заносіць яго зь сябрамі ў кіношку на канадзкую чарнуху «Вогненныя сракі». Галоўныя ролі ў фільме выконваюць нехта Тэрэнс і Філіп. У прынцыпе ўсё іх акторскае майстэрства палягае ў тым, каб як найвычварней пасылаць усіх на х… Дзіцячы розум, як гумка, усмоктвае выразы кшталту «я..ць тваю душу маць» ды намотвае на вус мэлёдыю фільму «Fucked Uncle». Не пасьпелі ў кіназалі ўрубіць сьвятло, як пяцігадовыя героі пачынаюць зьвяртацца адзін да аднога выключна як «штопаны гандон» і «лясное у.бішча»…*

***

Першы трывожны сымптом на ідэалягічным фронце раздаўся яшчэ пяць гадоў таму. На канале MTV пачалі круціць мульцяхі пра двух амэрыканскіх тынэйджэраў-дэбілаў Бівіса і Бат-Хэда. Героі сэрыялу былі мала падобныя да былых маладзёвых тэлекуміраў – Электроніка, блакітнага робата Вэртэра ці, на худы канец, на мужнага муху Ўжыка ад Ўолта Дыснэя.

***

**Кул Бразоўскі** – *яшчэ адзін прадстаўнік групы саўспаркаўскіх карапузаў, якія пад уплывам Тэрэнса і Філіпа перайшлі на ненарматыўную лексыку. Ягоная маці, былая зорка ў шоў гамбурґскіх дзермажэрак, а зараз тронутая актывістка баптыстаў, падымае кіпіш сярод бацькоў. Даведаўшыся адкуль дзьме вецер, бацькі вешаюць усіх сабак на Тэрэнса і Філіпа. Створаны маці Кула грамадзка-палітычны рух «Маці супраць Канады» прымушае Клінтана абвесьціць Атаве татальную вайну. У якасьці першага кроку каварныя янкі арыштоўваюць лахоў Тэрэнса і Філіпа і выносяць ім сьмяротны прысуд. У адказ канадцы бамбяць Амэрыку. Пачынаецца рубілава пакруцей за Югаславію…*

***

MTV-шныя архараўцы Бівіс і Бат-Хэд мастурбавалі, жэрлі чыпсы й «дымідрол» з мамінай аптэчкі, марылі трапіць за краты, дзе «ня трэба нічога рабіць, акрамя таго, што глядзець тэлек». Хапіла колькі месяцаў трансляцыі бруднай падробкі, каб падлеткі ў канец абдаўбаліся і трансфармаваліся ў гыгыкаючых зьвяркоў-аліґафрэнаў. На ўсе заклікі да адэптаў Бівіса і Бат-Хэда сабраць у гэтым годзе 6.000 тон збожжа або адправіць прэзіка ў адстаўку, ідзе паток эмтэвэшных фразэалягізмаў: «А цёлкі будуць, гы-гы? Не? Ну тады толькі за грошы, гы-гы...»

Пасьля таго, як мозгі айчынных тынэйджэраў перайшлі пад кантроль ЦРУ гэтак сама канкрэтна, як вёска Чабанмахі ў рукі фэдэралаў, пачаўся другі акт духоўнай вайны. На гэты раз заходнія разьведцэнтры вырашылі разыграць карту супраць неакрэплых ізьвілінаў кіндэраў.

***

**Кені Мак Корнік** – *самы малагадовы пэрсанаж сэрыялу South Park. Паводле сцэнару ён спрабуе падражаць паводзінам самых адмоўных прадстаўнікоў сьвету дарослых, за што расплочваецца ўласным жыцьцём. Пабачыўшы прыгоды Тэрэнса-Філіпа, садамазахіст Кені ў экстазе падпальвае ўнутраныя газы і спальвае сябе зажыва. Пасьля сьмерці ён наўпрасткі ляціць у апраметную, дзе натыкаецца на Садама Хусэйна ў адным ложку з Сатаной. Падсякаючы за салодкай парачкай, нябожчык Кені даведваецца пра страшную тайну: як толькі Тэрэнса і Філіпа пасодзяць на электрычны стул, на зямлі пачнецца сусьветны апакаліпсіс. Кені адразу спірытуальна зьвязваецца зь сябрамі. Тыя арганізуюць падпольны рух супраціву La resistance…*

***

Стаўка штабу NATO зробленая на новы мульцяшны сэрыял South Park. Аўтары карціны – нехта Matt Stone і Trey Parker – выкладчыкі пачатковай вайсковай падрыхтоўкі ў калёніі для малагадовых злачынцаў са штату Каларада. У 1994г. ад нефіг рабіць непрызнаныя Макаранкі змайстрачылі кампутаровую мульцяху South Park пра сапылёў, што лаюцца матам, як жэкаўскія сінюгі-сьлесары. Аднойчы відэакопія паскудзтва трапіла ў рукі агентаў фірмы Commedy Central (кантора цесна павязаная з ЦРУ). Цэрэушная чэлядзь адразу прасекла, чаго варты South Park у кантэксьце бязьлітаснай барацьбы ЗША за аднаполюсны сьвет. Matt Stone і Trey Parker атрымалі прапанову на афігіцельны кантракт. Неўзабаве першая сэрыя сэрыялу пад назвай «Картман спрабуе анальны сэкс» выйшла на экраны і пачала атручваць дзіцячыя душы па ўсім сьвеце.

***

**Стэн Марш** – *апошні герой South Park. На яго, як на лідэра групы мацюгальшчыкаў, перападаюць самыя жорсткія рэпрэсіі. У сярэдзіне карціны яму імплянтавалі ў мозгі чып-дэтэктар мату. Цяпер варта яму толькі замачыць «памэрс» і не са зла машынальна ляпнуць «..ля!», як электрычны разрад праціnae яго да кончыкаў задніцы. Ня гледзячы на часовыя нязручнасьці, Стэн узначальвае La resistance і прабіраецца ў лягер амэрыканскіх ваякаў, каб вызваліць Тэрэнса і Філіпа і выратаваць сьвет ад сатанінскага кашмару…*

***

На днях першыя пірацкія відэакасэты з запісамі фільму «Паўднёвы Парк. Таўсьцей. Даўжэй... Не абрэзана» зьявіліся на беларускім відэарынку. Хмара распусты навісла над сінявокай Беларусьсю. Памятайце, калі ваш карапуз на пытаньне, як спадабаўся яму прапанаваны «Мілкі Ўэй», безь віцийства скажа: «Зая..сь! Гэта ж, ..ля, табе не х..ня ціпа засранай прэзэрватыўнай гумкі «Love is», а ах..нна чысты шакалад, маць яго за нагу!», біце што сілы трывогу. Стопрацэнтова вы знойдзіце ў яго ў калысцы відэакасэту з крамольным сэрыялам South Park. Адразу перабакланьце з вашым малюткам і настаўце яго глядзець дыснэеўскую клясыку. Калі не дапаможа, застаецца толькі рэмень. Памятайце, заўтра ўжо можа быць позна ●

**Яўген Мацюканаў**

## «ЗНАЙДЗІ МЯШОК З ГЕКСАГЕНАМ»




### Шаноўны чытач!

Невядомыя злаўмысьнікі схавалі нейкія падазроныя мяхі ў падвале твайго дому (інтэрнату, унівэру і г.д.). Небясьпека пагражае ня толькі тваёй ненавіснай камэндантцы (цешчы, дэкану і г.д.), але і табе самому. Дапамажы супрацоўнікам міліцыі прадухіліць тэрарыстычны акт і абясшкодзіць выбуховае рэчыва. Бо калі ня ты, то хто ж?



# КОМІКС

## ЗАГАД ЁСЬЦЬ ЗАГАД

Аднойчы Прэзыдэнт забіў супэрагенту Анты-Мірону стрэлку ў Драздах.


































































